PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1822) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 14 КРАСАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)

# ЦІ ПАЛЯКІ ГАВАРЫЦЬМУЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ?

Напрыканцы сакавіка гэтага года наведаў Польшчу **Балеслаў Язэпавіч Сушкевіч** — намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Акрамя гэтага спадар Сушкевіч з'яўляецца народным дэпутатам БССР з Баранавіцкай акругі ды выконвае грамадскую функцыю старшыні рэспубліканскага Савета былых выхаванцаў дзіцячых дамоў. Размову з ім удалося мне наладзіць 26 сакавіка, на гадзіны дзве перад яго́ным ад'ездам у Мінск.

— *Якая мэта Вашага візіту ў Польшчу?*

— Пачну ад таго, што мяне ўжо даўно чакалі ў Беластоку, а дакладней кажучы, у вашым радыё. Некалькі разоў запрашаў мяне дырэктар Беластоцкага радыёвяшчання **Ежы** Мушынскі, але паколькі ішла ў нас выбарчая кампанія, дык давялося прысвяціць шмат часу, каб стаць дэпутатам. Затым пачаліся сесіі Вярхоўнага Савета — адна, другая, трэцяя... У Польшчу выбраўся толькі цяпер, з групай навучэнцаў і кіраўнікоў мінскага ліцэя. Прыехаў я сюды з намерам замацаваць супрацоўніцтва паміж польскім і беларускім радыёвяшчаннямі. Учора, гэта значыць 25 сакавіка, у выніку перамоваў з кіраўніцтвам агульнапольскага радыё было падпісана „Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Польскім радыё і рэспубліканскім радыё Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні“.


*Балеслаў Сушкевіч.*

— *Якія дэталі гэтага пагаднення?*

— У пагадненні два істотныя пункты. Беларускі бок мае падрыхтаваць цыкл урокаў па беларускай мове ды гэты цыкл прагучыць на ўсю Польшчу — па агульнапольскім радыё. Падобны цыкл урокаў па польскай мове будзе гучаць з Мінска. Памойму, справа гэта карысная, бо створацца такім чынам спрыяльныя варункі ўсім тым, хто ў Польшчы захоча займацца беларускай мовай, а ў Беларусі польскай. Цяпер перад намі заданне, каб цікава падрыхтаваць гэтыя ўрокі — у іх трэба выкарыстаць і гістарычныя звесткі, і культурныя ды шмат чаго іншага, каб справа была прафесіянальна зроблена. Польская мова будзе таксама гучаць у абласным радыё ў Гародні і ў Бярэсці — адну гадзіну ў тыдзень. Мы, са свайго боку, будзем паважна ставіцца да польскай грамады ў Беларусі так, як на Беласточчыне ў дачыненні да беларускай быць павінна. Што далей? Абмен перадачамі — гэта самазразумелае. Іншай важнай справай з'яўляецца ахова „зялёных лёгкіх“ Еўропы, гэта значыць Белавежскай пушчы, ды распрацоўка чарнобыльскага пытання. Хаця справы гэтыя і не ўвайшлі непасрэдна ў пагадненне, але абодва бакі згадзіліся ў меру магчымасцяў, якія дадзеныя сродкам масавай інфармацыі, прыкласці намаганні дзеля распрацоўкі абодвух пытанняў. распрацоўкі, якая заключалася б у ангажаванні ў абедзве гэтыя справы як мага больш дзяржаўных устаноў.

— *Каб быў поўны вобраз, запытаю яшчэ, калі ўзнікла ідэя гэткага супрацоўніцтва, ды з якога боку яна выйшла?*

— Беларускамоўныя перадачы па Беластоцкім радыё перадаюцца ўжо не першы год — вам гэта лепш вядома. У адказ на гэтыя перадачы абласное радыё ў Гародні пачало выпускаць у эфір перадачы на польскай мове. Быў гэта першы крок. Па абодвух баках мяжы з'явілася жаданне, каб гэтую ідэю развіваць ды заключыць нейкую дамову на вышэйшым ўзроўні, бо ж гэта жыццём дыктуецца. Беларускаму і польскаму народу, так сказаць, стагоддзямі жыць побач — ніхто нас на іншую планету не перасяліць, нават, калі мы гэтага і хацелі б.

— *Свой каментар да дакумента Вы ўжо сказалі, дык, калі ў Вас знойдзецца яшчэ хвілінка часу, скажыце пару слоў пра само мінскае радыё.*

— Беларускае радыё ўзнікла ў 1924 годзе — неўзабаве яму семдзесят. На сённяшні дзень мінскае радыё працуе 27 гадзін у суткі, улічваючы і тое, што недзе каля гадзіны штодзённа транслюе ў замежжа. Замежная

(Працяг на стар. 6)

# СУСТРЭЧА Ў САЎМІНЕ БССР

22 сакавіка 1991 года па рэкамендацыі дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР Лявона Баршчэўскага і Уладзіміра Новіка адбылася сустрэча сакратара ГП БГКТ Віктара Стахвюка з намеснікам прэм'ер-міністра БССР Нінай Мазай. У сустрэчы ўдзельнічалі дэпутат ВС Уладзімір Новік і загадчык аддзела народнай адукацыі Саўміна Генадзь Галіноўскі.

Сакратаром ГП БГКТ быў перададзены ліст у справе культурнага супрацоўніцтва, супольнай пабудовы гатэлю ў Беластоку і прыняцця выпускнікоў беларускіх ліцэяў і сярэдніх школ Беластока ў вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Беларусі.

У час звышгадзіннай размовы былі абмеркаваны наступныя справы:

— дапамога ў арганізаванні беларускага летніка на Беласточчыне (урад БССР перадасць палаткі, палявую кухню з прыладамі, санітарнае абсталяванне);

— дапамога Беларускаму музею ў Гайнаўцы;

— праект пабудовы цэнтра беларускай культуры ў Беластоку, пасля ранейшага ўзгаднення з уладамі Рэчыпаспалітай Польскай;

— адпачынак каля 100 дзетак з Беласточчыны ў летніках Беларусі;

— супрацоўніцтва ў галіне культуры (абмен калектывамі, канцэрты).

Намеснік прэм'ер-міністра Ніна Мазай з вялікай увагай разгледзела прапановы сакратара ГП БГКТ, аднеслася да іх з прыхільнасцю і дэкларавала ўсебаковую дапамогу.

Адкрываецца якасна новы этап у супрацоўніцтве беларусаў з Беласточчыны з Бацькаўшчынай. Прыкладам гэтага можа быць 9 тон газетнай паперы, падараванай БГКТ на друк „Нівы“. За гэты каштоўны дар сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк перасказаў на рукі Ніны Мазай падзяку Савету Міністраў БССР.

С. В.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## САКАВІЦКАЯ ГАДАВІНА

*(...) Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў васобе Устаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі (...)*

Гэтак 73 гады таму Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пісала ў трэцяй Устаўной Грамаце, вядомай нам сягоння як Акт 25 Сакавіка. Гадавіна гэтай падзеі, як правіла, святкуецца ў беларускіх асяроддзях у заходніх краінах, ці, як кажуць самі эмігранты, — у вольным свеце. Дзень Незалежнасці, бо як жа ж інача называць гэту дату, святкуецца ад нейкага часу і ў савецкай Беларусі. Гістарычнай важкасці гэтай падзеі не паменшыў нават факт абвяшчэння ўрадам БССР дзяржаўнага суверэнітэту 27 ліпеня 1990 года.

На Беласточчыне гадавіны Акту 25 Сакавіка святкуюцца перад усім у беларускіх студэнцкіх асяроддзях. Сёлета, калі Польшча ўжо прынамсі з назвы лічыцца вольнай дзяржавай, святкаванні гэтыя набылі поўнасцю афіцыяльны характар. У суботу 23 сакавіка Беларускае аб'яднанне студэнтаў наладзіла ў будынку Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку адмысловую ўрачыстасць. Трэба адзначыць, што будынак гэты быў раней сядзібай Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Вядучым урачыстасці быў супрацоўнік Беластоцкага радыё Юрка Ляшчынскі — для яго, няйначай, найважным было, каб усё акуратна запісаць на магнітафонную стужку. Падчас урачыстасці выступілі з дакладамі Яўген Мірановіч і Сакрат Яновіч. Яўген Мірановіч засяродзіўся ў сваім выступленні на тэме адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Ёсць сэнс гаварыць пра адраджэнне менавіта, разважаў Мірановіч, бо беларуская дзяржава перад стагоддзямі існавала. Так склалася, што наша дзяржава расплылася дзесьці ў гісторыі і трэба было яе нанава тварыць. 25 сакавіка 1918 года не было адраджэннем дзяржаўнасці як фізічнай з'явы з усімі характэрнымі ёй атрыбутамі, гэта значыць арміяй, паліцыяй, судамі, адміністрацыяй, дзяржаўнымі межамі. Каб дзяржава існавала і была прызнана іншымі дзяржавамі, неабходны такі стан, у якім урад кантралюе тэрыторыю, да ўлады над якою імкнецца. Тварэнне дзяржавы — гэта вялікі працэс. Дзяржава існуе таксама тады, калі ўрад у змозе падпарадкаваць насельніцтва ўстаноўленым гэтым жа ўрадам правам. Акт 25 Сакавіка не стварыў дзяржавы ў такім сэнсе, але 25 сакавіка 1918 года ўзнікла ідэя, пра якую раней ніхто і не падумаў. Ідэя незалежнай дзяржавы ўзнікае тады, калі значная частка грамадства ўсведамляе сабе існаванне нацыі, у якое культура, мова і палітычныя інтарэсы. Гэта толькі першы этап тварэння дзяржаўных структур і беларусы яго прайшлі. Прайсці наступны этап гісторыя ўжо не дазволіла.



Сакрат Яновіч (верхні здымак) распавёў у сваім дакладзе пра адраджэнскія і незалежніцкія матывы ў творчасці беларускіх паэтаў і празаікаў. Працягам яго выступлення была мастацкая частка, падчас якой спявалі і гралі на гітарах Эля Бэзюк і Дарота Кузьміч.

Адзначэнне 73 гадавіны Акту 25 Сакавіка закончылася супольнай фатаграфіяй навонкі будынку Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

**Аляксандр Максімюк**
Фота аўтара



## У ГАРАДОК НА „БАСОВІШЧА"

Бадай, не перабольшым, калі „Басовішча", гэта значыць, Фестываль музыкі Маладой Беларусі, назавем найважнейшай беларускай музычнай імпрэзай — з якога боку мяжы не прыглядацца б. Размах арганізаванага Беларускім аб'яднаннем студэнтаў фестывалю далёка перарос першапачатковую яго ідэю. На „Басовішчы" ўжо не толькі Беласточчына, але ўся прагрэсіўная Маладая Беларусь адзначае свята музыкі. Летась у Гарадку тры дні запар мелі мы свой малы беларускі Вудсток. Зоркі беларускай сцэны, барды мітынгаў з гарачым непадцэнзурным словам ды цвёрды металічны рок рэхам несліся ў падгарадоцкіх хвайняках, бо якраз на лясной паляне гасцявала маладзёжная музыка.

Некалькі соцен маладых паклоннікаў рока гуляла на месцы — у Барыку, значна больш ведае фестываль з відэакасетаў, а яшчэ больш пазнаёмілася з музыкай са звычайных магнітафонных альбо з беларускіх перадач Беластоцкага радыё.

Гэтак было год таму. А ці сёлета будзе „Басовішча"? Хто раз пасмакаваў наркатычнага шаленства ў Барыку, той і зараз яго прагны. Хто не — будзе мець нагоду, бо вось кіраўніцтва Беларускага аб'яднання студэнтаў вырашыла і ў гэтым годзе правесці фестываль — у Барыку пад Гарадком у днях 12-14 ліпеня. Арганізатары імкнуцца не толькі паўтарыць імпрэзу, але пашырыць яе на новых выканаўцаў — бардаў і рок-гурты. Фестываль патрабуе значных арганізацыйных і матэрыяльных сродкаў. Грашовыя ахвяраванні можна надсылаць на гэты вось рахунак:

(у польскіх злотых)

**X Oddział PKO w Warszawie**
**Plac Powstańców 1**
**1603-550130-132**

(у замежнай валюце)

**Państwowy Bank Kredytowy I Oddział w Białymstoku**
**Nr rachunku:**
**370406-102140-152-1787**

**Арганізацыйны камітэт „Басовішча '91"**

## ДЗЯКУЕМ ЗА ПАДТРЫМКУ

У сакавіку 1991 года Беларускае аб'яднанне студэнтаў атрымала матэрыяльную дапамогу ад беларусаў са Злучаных Штатаў Амерыкі:

176 дол. (у тым ліку 100 ад спадара Кіпеля) — сабраныя падчас праекцыі фільма „Басовішча '90" у Фундацыі Крэчэўскага,

160 дол. — складчыны нью-йоркскага гуртка БАС,

73 дол. — з продажы выданняў БАС.

Усяго: 409 доляраў ЗША.

Сардэчна дзякуем усім ахвяравальнікам. Паведамляем, што грошы выкарыстаем на арганізацыю Фестывалю музыкі Маладой Беларусі „Басовішча '91".

**Галоўная рада Беларускага аб'яднання студэнтаў**




## „ПАТРЫЯТЫЗМ"

Вельмі даўно таму — бо было гэта ў старажытнай Грэцыі — жыў сабе слаўны мысліцель, здаецца Дзіягенам яго звалі. Зласліўцы даказваюць, што слава ягоная ўзялася не ад мудрасці, а па прычыне яго беднаты — жыў ён проста ў бочцы. Але ці ж і сягонняшнюю праўду людзі „добрыя" не падменьваюць легендамі, пачэрпнутымі з Пандорынай бочкі?

Напрыклад, спадар Мікалай Панфілюк („Ніва" за 10.02. 1991 г.) грыміць на тых, хто замест быць патрыётам, гатоў „адзін аднаго ў лыжцы вады ўтапіць". І, відавочна з разгону, пачаў сам... Богу душу вінаватага Бутайлу тапіць. Бо „Бутайла і яму падобныя стараюцца не падрываць нядаўні таталітарызм". Мне аж дух заняло, такое чытаючы. Бутайлу (які намагаецца сваімі вершамі, перакладамі і эсперанцкай працай людзей аб'ядноўваць), мне здавалася, я добра ведаю і каб лічыць яго прыхільнікам таталітарызму, дык і ў галаву мне не прыйшло. А тут аказваецца, што ён хваліць камуністычную прапаганду, якую друкуе „Ніва". І яшчэ якую прапаганду: здымкі цэркваў і бацюшкаў!

Не разумею, чаму Панфілюк, атакуючы спадчыну мінулага рэжыму, не патрабуе ліквідаваць і крыніцу прапаганды — „Ніву"? Яна ж свой выхад пачынае ў эпоху камуністычнага панавання! Чаму не дамагаецца ўсіх тагачасных рэдактараў і карэспандэнтаў (вядома, апрача самога Панфілюка) павешаць?

Старыя ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі памятаюць, што сярод бальшавікоў, калі здабывалі ўладу, былі такія, што неадкладна дамагаліся разбурыць усе „пабудаваныя царамі" чыгункі і пакласці новыя, ужо ідэйна камуністычныя жалезныя дарогі. Праўда, абмежаваліся яны толькі ліквідацыяй інтэлігенцыі, „кулакоў" і „ворагаў народа"... Відаць, паводле М. Панфілюка і ў нас кожная новая ўлада павінна таксама рабіць такую чыстку — ліквідацыя ворагаў заўсёды многае вырашае.

Аднак, мы, здаецца, маем на ўвазе вырашэнні, якія ідуць не толькі ў карысць пануючай улады. Мы зацікаўленыя ліквідацыяй перашкод у існаванні беларушчыны на сваёй зямлі. А дзе карані тых перашкод? Чаму многія з гэтай тэмы робяць загадку? Паклонам у адрас дзяржаўнай улады і рэлігіі Панфілюк выключае сумненні, што з іх боку могуць пагражаць нам якія-небудзь камплікацыі (гэта ў артыкуле пра патрыятызм — ён умее па-майстэрску „паказацца" там, дзе выгадна). Каго тады мы павінны лічыць сваімі працаўнікамі? Ужо было сказана, таго, хто актыўна не падрывае ўсё і ўсіх з мінулай эпохі. І тут ужо нават падлеткі

**(Працяг на стар. 5)**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Хата пад гонтамі ў вёсцы Ахрымаўцы.*

*Мал. У. Петрука*

### НАЦЫЯ НЕШЧАСЛІВЫХ




Больш панурай кніжкі я, бадай, і не чытаў... Маю на ўвазе — „Грамадскія праблемы ўсходняга памежжа" (Społeczne problemy wschodniego pogranicza), Андрэя Садоўскага, якую толькі што апублікавала Філія Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

Навуковыя яго аналізы і доследы пацвердзілі амаль з дакладнасцю швейцарскага гадзінніка тое, што даўно прадчуваў не адзін я: набліжаецца ноч Беластоцкаму Краю, не дай Бог, непрабудна вечная. На пераломе трэцяга тысячагоддзя эканамічны краявід рэгіёна будзе нагадваць у нейкім сэнсе патопны: усюды безвясковая гладзь, пасярэдзіне якой валізная выспа ў выглядзе Беластока і некалькі малых (Бельск, Гайнаўка, Саколка, Лапы, Супрасль, Васількаў, Нарва....). На іх ужо грамадзіцца народ усякіх гатункаў, бы на тым Ноевым каўчэгу; берагамі гэтай пустыні будуць — савецкая дзяржаўная мяжа з аднаго боку і паласа шматлюднага ды гаспадарлівага ўсходняга Мазоўша з другога, а на поўдні, за Бугам, падобны прастор пустак пашырыцца на гістарычнае Падляшша. Беларускі лёс завяршыцца ў выніку польскім гарадскім шчасцем.

Прычына самапаланізацыі сярод нашага люду і паланізавання сваіх дзяцей, выяўляецца, зусім не ў атракцыйнасці культуры палякаў ці асімілятарскіх націскаў іхных. За пасляваенны час аж па сённяшні практычна кожная беларуская сям'я занята аднай думкай: што зрабіць, каб пазбыцца абнясільваючай гаспадаркі і пераехаць жыць хаця б у мястэчка, калі няма як у сам Беласток?! У такім плане адбываецца выхоўванне дзетак на **будучых проша-паноў гараджан,** у чым моцна дапамагае менавіта школа, урокі ў якой напоўнены культам фабрычнай цывілізацыі ды ціхай пагардай да працы хлебароба. У камуністычнай сістэме селянін быў непатрэбны, трактавалі яго як варожую сілу, якую неабходна зніштожыць. Так і сталася. Напрыклад, на тэрыторыі ад Саколкі да Гарадка, на якой лёгка налічыць за трыццаць вёсак, маладых гаспадароў усяго стольк, колькі пальцаў на руках і нагах. І яны ўсяляк камбінуюць, каб кінуць гектары з хлявамі і стадоламі ды неяк абсталявацца ў Саколцы або ў Чорнай-Беластоцкай. Бяда тут, можа, не так у цяжкай рабоце, ад якой урэшце немалыя прыбыткі, але ў тым якраз, што няма як ажаніцца, мець радзіму: дзяўчаты ўсе да апошняй пыльнулі з гразі на тратуары, аніякімі мільёнамі не падманеш іх вярнуцца даіць кароў, свіней, мацаць курачак, палоць агароды, не бачыць свету ад світання да ночы ды згорбіцца бабуляю ў саракоўку. Яны і ёсць найзацятымі кандыдаткамі ў полькі, бо ў нашых варунках абазначае гэта паляпшэнне сабе быту. Жыць скрамней, але лягчэй, палюдску.

У такой сітуацыі беларускі нацыянальны рух успрымаецца як агітацыя да рэзыгнацыі ад лепшага лёсу дзеля ідэі без канкрэтнай карысці. Адпаведныя статыстыкі Садоўскага датычна праваслаўных, пражываючых у сваёй пераважаючай масе, напрыклад, у Нараўскай гміне, паказваюць, што прыблізна **адзін з дзесяці** бачыць патрэбу быць беларусам. Найчасцей тыя, хто ўжо пагадзіўся са сваім вясковым бязвыйсцем (прэтэндэнты на новых беластаччан адносяцца да рускасці наогул абыякава або ў стылі п'яных песняў).

Гаспадар, нават з добрымі задаткамі на фермера, адчувае сябе прайграным. Таму ў вёсках не відаць шчаслівых людзей; топяць свой смутак у чарцы і лаянцы. Калькуляцыі жыццёвых шанцаў у маладых жа цалкам пазбаўлены арыентацыі на здабыткі працаю; разлічваюць на хітрасць ды жульніцкі спрыт. Дэмаралізацыя ў гмінах дасягнула свайго дна, рэдка бываюць гутаркі, якія не канчаюцца выпіўкай. Алкагалізм — неадлучная з'ява бесперспектыўя.

Нешчасліваму чалавеку застаюцца два варыянты рэагавання — або меланхалійная сціпанасць, або злосць на ўсіх і на ўсё. З такім не падыскутуеш. Вось і растлумачэнне слабасці беларускага руху. І таго, што грамадска-палітычная дзейнасць у сучасны момант толькі індывідуальна выходзіць далей канцоў вуліц прадмесцяў з задаволенымі асабнякамі. **Вёска поўніцца крыўдаю, што яна ўсё яшчэ мусіць быць!**

Няхутка прыдзе ў нашу палітыку зразуменне, што ўпадак сельскай гаспадаркі раўназначны эканамічнай вегетацыі ўсяе краіны. У заходнім свеце спахапіліся ў тым зараз пасля вялікай вайны. У іх хто мае зямлю з будынкамі, той пан над панамі, а ў яго хутарскім доме, як гавораць, лялькі ходзяць. Ці калі так і ў Беласточчыне збудзецца? Наўрад... Не прычакаем таго ні мы, ні ўнукі нашы.

Што рабіць, што чыніць?? — калоціцца дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Яны дасканала ўсведамляюць сабе, што прапажа вёскі — гэта польскія капцы беларускай нацыянальнай меншасці! Бо ў горадзе, няхай сабе і пасляпавятовым, мы як нацыя не выстаім.

Не даць эканоміцы гандлёвых продухаў — гэта тое самае, што чалавеку выразаць лёгкія. Каб прадаваць — трэба мець купцоў. Самі яны не з'яўяцца, калі няма фірмы, прынамсі гарантыйнай суполкі. А яна не завяжацца без банкаўскага крэдыту. Трэба банк, але з чыім капіталам? Грошы плодзяцца там, дзе ёсць магчымасці арганізаваць прадукцыю і збыт яе. І тое, і тое больш-менш ёсць у нас (напрыклад, Беларуская Рэспубліка гатовая купіць не адну бульбу). Дык чаго ж бракуе? Арганізатараў, сябры беларусы. Арганізатараў таго, што бізнесам завецца. Злучнасць усходніх гмінаў з сядзібаю ў Нарве ўсё не надта ведае, як і да чаго прыкласці працавітыя рукі. Гэта наша бяда. Нават нацыянальная! Бяжым у Беласток на чужы хлеб, бы тыя парабкі ў колішні двор, дзе давалі паесці і світку на горб, і кут у чвараках накшталт „блёкаў". А уласным коштам багацець не прызвычаіліся.

На такія вось і на іншыя, не запісаныя тут, развагі навёў мяне Андрэй Садоўскі (з Тыневічаў ён?) сваёй кніжкай. Хто любіць думаць і вучыцца, няхай абавязкова пачытае яе. Будзе сумна яму, але не радасць паглыбляе розум.

**Сакрат Яновіч**

# НАШЫ КАРАНІ

### VI. НАПЯРЭДАДНІ

Падзвіжніцкая дзейнасць княгіні Вольгі (прыняла ў 953 г. Святое Хрышчэнне і хрысціянскае імя Галена) у пашырэнні веры Хрыстовай сярод усходніх славянаў не адразу закаласілася шчодрым плёнам. Пасля трагічнай смерці яе сына, князя Святаслава, які перажыў маці ўсяго трыма гадамі і загінуў у 972 г., насталі часы звадак і барацьбы паміж сынамі за ўладу ў краіне.

У Кіеве панаваў вялікі князь Яраполк, любы сын князя Святаслава і каханы выхаванак княгіні Вольгі. Ён быў жанаты з хрысціянкай, адукаванай і незвычайнай красы грачанкай, мабыць, царскага роду, збіраўся сам прыняць Святое Хрышчэнне і хрысціянізаваць дзяржаву. Аднак за ўладу на кіеўскім пасадзе пачаў змагацца яго брат Уладзімір, які княжыў у Вялікім Ноўгарадзе. Яго аграмадная і баявітая дружына складалася перш за ўсё з нанятых ім язычаскіх вояў са Скандынавіі, гэтак званых варагаў або нарманаў. Нямала было ў ёй таксама падбухтораных супраць хрысціянаў жрацамі і шаманамі насельнікаў абшырнай Ноўгарадскай зямлі. Спачатку князь Уладзімір у выніку цяжкага змагання зваяваў спрыючае Яраполку княства Полацкае. Полацкага князя Рагвалода і яго сыноў ён пазбавіў жыцця, а дачку князёўну-прыгажуню Рагнеду прымусіў стаць адной з ягоных жонак. Неўзабаве такі ж лёс спаткаў Кіеўскае княства, князя Яраполка і яго жонку. Князь Уладзімір не спыняў свайго змагання за панаванне над іншымі ўсходнеславянскімі і суседнімі з імі землямі, і гэтай нагодай карысталіся варагі і іншыя язычнікі ды жорстка распраўляліся з хрысціянамі. Болей таго, варагі лічылі Усходнюю Славяншчыну сваёй здабычнай зямлёю, паводзілі сябе ў ёй як заваёўнікі. Такое не магло падабацца Уладзіміру, і ён неўзабаве выдаліў варагаў прэч за межы сваіх уладанняў і пад пагрозай смерці забараніў ім вяртацца. Хоць кіеўскі князь надалей абапіраўся на язычнікаў і нават актыўна садзейнічаў стаўленню статуй язычаскіх бажкоў, але праследаванні хрысціянаў спыніліся, а іхняя роля ў княжацкай дружыне і ва ўсёй дзяржаве пачала ўзмацняцца.

У гадах 981-983 Уладзімір на чале свае дружыны падаецца на заходнія рубяжы Усходняй Славяншчыны, збірае пад сваю ўладу землі над ракою Гучвай, так званыя чэрвеньскія гарады, а таксама абшары над сярэднім цячэннем ракі Буга, верхнім і сярэднім Нарвы, гэта значыць сённяшняе Падляшша.

Вельмі ж паказальна, што паведамляючы пра гэтыя паходы, летапісцы маўчаць і пра стаўленне язычаскіх ідалаў і пра праследаванні хрысціянаў. Можна меркаваць, што якраз апанаванне гэтых, у большасці здаўна хрысціянізаваных, зямель канчаткова адхіліла Уладзіміра ад язычаства. Не без значэння было і тое, што ў князеўскую дружыну ўлілася магутная хваля тутэйшых вояў-хрысціянаў, і воі-язычнікі ўжо не пераважалі ў ёй. Дык князь Уладзімір быў выдатным дзяржаўным дзеячом і дальнавідным палітыкам. Ён, назіраючы за высокім узроўнем жыцця, гаспадаркі і культуры ў чэрвеньскіх гарадах ці на Сярэднім Пабужжы, упэўніўся, што прымітыўныя язычаскія вераванні аджываюць свой век, бо яны трымаюць людзей у дзікасці, цемры, адсталасці, а хрысціянства нясе з сабою высокія маральныя якасці ў паводзінах чалавека, асвету, поступ і заможны быт, таму перад ім будучыня. І яшчэ ён усведамляў, што прыняццё хрысціянства далучыць яго ўладанні да перадавых краінаў тагачаснай Еўропы, а яго паставіць упоравень з хрысціянскімі ўладарамі. І князь Уладзімір паволі, паступова, каб не выклікаць язычаскай рэакцыі, не прычыніцца да бунту паганаў ды не пашкодзіць сваёй дзяржаве, пачаў усё больш спрыяць хрысціянству, акружацца хрысціянамі, прыслухоўвацца да іхніх парадаў, даручаць ім адказныя дзяржаўныя справы і ўмацоўваць іхнюю ролю ў краіне.

Такім чынам, паволі, але настойліва даспявалі прыхільныя варункі да велічнай падзеі.

**Мікола Гайдук**



## РАДАСЦЬ БЕЛАВЕЖЦАЎ

**Роўна 10 гадоў жыхары Белавежы былі вымушаны абыходзіцца без свайго Дома культуры. Драўляны будынак, збудаваны яшчэ ў 30-тыя гады, быў зачынены з пачаткам 1981 года. Спярша спыніла дзейнасць кіно, потым свае памяшканні звольнілі бібліятэка і святліца. Белавежцы пачалі ўжо нават гаварыць, што, мусіць, з культурай прыйдзе ім развітацца назаўсёды.**

**Неўзабаве новы начальнік гміны Яўген Паўлючук узяў справу ў свае рукі. Ездзіў па розных установах, стукаў у дзесяткі дзвярэй — і свайго дабіўся. Атрымаў грошы на выкананне дакументацыі рамонтна-мадэрнізацыйных прац і самых прац. Рамонт пачаў з канцом 1984 г. Заняўся ім Кааператыў розных рамёстваў з Гайнаўкі.**

**Працы ішлі няроўным тэмпам. Вельмі хутка выявілася, што трэба пераапрацоўваць планы, не хапала грошай, ды і іншых перашкодаў намнажылася. І так мінула 6 гадоў. Змянілася ў гэтым часе і начальства гміны, але Дом культуры ў Белавежы быў адкрыты.**

**Урачыстасць адкрыцця яго адбылася 10 сакавіка г.г. З'ехалася шмат гасцей, былі прадстаўнікі ваяводскіх улад, дзеячы культуры. З Пружанаў і Камянца, што ў прыгранічнай зоне БССР, прыехала, па запрашэнню гмінных улад, каля 200 чалавек — у асноўным члены мастацкіх калектываў, якія дзейнічаюць пры гарадскіх дамах культуры. Нашы землякі выступілі па спевам, танцамі і музыкай. Пакінулі па сабе цёплы, сардэчны ўспамін.**

**Беластоцкі ваявода Станіслаў Пруціс пераслаў войту гміны Белавежа і адначасова шматгадоваму аніматару культуры Анне Байко віншавальны ліст.**

**Вечарам таго ж дня дэманстраваўся бясплатна фільм, якім узнавіла сваю дзейнасць кіно. Пачала таксама „працаваць“ выставачная зала. Удзельнікі ўрачыстасці пабачылі 57 палоцен таленавітай жыхаркі Белавежы Тамары Тарасевіч. Выстаўка працягвалася да 17 сакавіка.**

**Што яшчэ, апрача кіно і выставачнай залы, змяшчаецца ў Белавежскім доме культуры „Зубр“? Зразумела, што не магло абысціся без памяшканняў для гміннай бібліятэкі — яна размясцілася аж на 130 квадратных метрах. Пры ёй існуе і чытальня. Некалькі памяшканняў займае святліца. Ёсць залы для мастацкіх калектываў, ёсць і пакоі для гурткоў зацікаўленняў. Неўзабаве мае быць адчынена кавярня. Думаецца таксама і аб адкрыцці невялікай крамы — для яе таксама прадбачана месца. У БДК можна паглядзець нат сатэлітарнае тэлебачанне.**

**Дырэктарам Дома культуры з'яўляецца Станіслаў Куявяк, дарэчы гмінны радны, былы дырэктар Белавежскага нацыянальнага парку.**

**Белавежцы вельмі здаволены сваім аднаўленым асяродкам культуры. Ён цяпер надта абшырны (агульная паверхня ўсіх памяшканняў — каля 1 тысячы квадратных метраў), відны, функцыянальны. Пазайздросціць яго Белавежы могуць шматлікія гарады. Асабліва ў такі неспрыяльны для культуры, ды і не толькі для яе, час.**

**Тэкст і фота ПЯТРА БАЙКО**



*Усходняе крыло БДК „Зубр“ яшчэ ў часе рамонту.*



## АДГАЛОСКІ

**(Працяг са стар. 4)**

скеміць здолеюць: ворагамі беларускасці (і новага парадку) — самі беларусы. Не сакрэт жа, што „носьбітамі камунізму былі (а можа і астаюцца?) праваслаўныя ды жыды“!

Калі так, дык ці ж не пара дзеля ратавання свайго гонару ў вачах пануючай нацыі ды дабра сучаснай улады ў краіне выказаць нам свой патрыятызм і пачаць рэгістрацыю патэнцыяльных ворагаў будучага — хаця яшчэ і цьмяна ўяўнага парадку? Можна б прозвішчы падазроных памяшчаць на старонках „Kuriera Podlaskiego“. Першага ворага ўлады ўжо маем, гэта Бутайла. „Яму падобных“ ведае сп. Панфілюк. Мяне можна таксама ўключыць у гэты спісак — чым больш, тым лепш. Калі збярэцца ворагаў некалькі дзесяткаў тысяч, можна было б падабраць і месцы на пабудову новай Картуз-Бярозы, а то і новых Курапат... Вось тады дык запанаваў бы прыкладны парадак! Быў бы ўсюды лад і патрыятычнае аднадумства!

Ну так, захапляючыся перспектывамі будучыні і марамі суайчыннікаў, амаль не забыўся я пра пачатае апавяданне аб Дзіягене. Той некалі ў час Алімпіяды таксама вылез са сваёй бочкі, каб убачыць спартыўных герояў. Падыйшоўшы да аднаго, такога ў лаўровым вянку, акружанага натоўпам паклоннікаў, запытаўся: „Ты пераможца?“. „Толькі я“, — з гордасцю адказаў той. „А твой праціўнік быў мацнейшы за цябе ці слабейшы?“. „Вядома, што слабейшы!“ — гукнуў узнагароджаны вянком дурыла. „Тады чым жа ты ганарышся, калі перамог толькі слабейшага?“ — здзівіўся Дзіяген...

Так. Слабых кідаць „вобземлю“ то і мы майстры. Вось толькі да сур'ёзных праціўнікаў людзі больш сур'ёзна ставяцца. Часам дзеля святога супакою не прыкмячаюць нават іхніх злачынстваў. А калі карысць якую прадбачваюць, дык і боты ім пачысціць яны гатовы. Вядома, чалавек — істота разумная, таму і ягонае імя, калі ён захоча слаўным паказацца, гучыць часам на працягу доўгай гісторыі вельмі горда. Потым пра такіх і кажуць неазнаёмленыя з праўдай: вось дык патрыёт!

**А. Маўчун**

Зорка
старонка для дзяцей

## Вучнёўская творчасць

### МАЯ МАРУДА

Мая кошка называецца Маруда. Яна лахматая. Жыве ўжо адзін год.

Калі я прыеду са школы, Маруда чакае мяне і вельмі хоча са мной гуляць.

Маруда спіць у кошыку на пасцелі з сена.

Маруда — спрытная кошка. Вельмі любіць лавіць мышэй.

Люблю, калі мая Маруда падае мне сваю пухнатую лапку. Калі я яшчэ сплю, а пара ўжо ўставаць і збірацца ў школу, Маруда далікатна царапае мяне ў твар, каб мяне разбудзіць. Калі я сяджу за кніжкамі, мая кошка сядзіць у мяне на каленях і лапкай гартае старонкі.

Я ведаю, што мая Маруда вельмі мяне любіць, і я яе таксама.

**Эдыта Вавжэнюк,** IV клас, школа ў Храбалах

### МУЖЫН

Мой любімы звер — сабака Мужын. Яму 5 месяцаў. Ён колеру чорнага, толькі лапкі ў яго беленькія. Мужын нізенькі, а вушкі ў яго тырчком.

Калі я вяртаюся са школы, мой сабачка бяжыць да мяне. Ён такі добры і мілы.

Кожны дзень я кармлю яго, хаджу з ім на прагулкі. Сабака павінен многа бегаць на свежым паветры.

Я не замяніла б свайго Мужына на іншага звера. Ён мой сябра.

**Марта Аляксеюк**

## АДГАДАНКА



### ФІШКІ-ПАДАРОЖНІЦЫ

На малюнку — 10 фішак, размешчаных у форме роўнабаковага трохвугольніка. Перамясці тры фішкі так, каб зноў атрымаць роўнабаковы трохвугольнік.



*Цікаўная.* *Фота В. Жушмы.*

**Пятро Рунец**

## ЯК ЗАЯЦ МЯДЗВЕДЗЮ ПАМАГАЎ

У адным лесе ваяводам быў Мядзведзь, паважаны Міхайла Іванавіч. Ён быў сумленны, дбайны гаспадар і ўважліва сачыў за парадкам у сваіх уладаннях. Аднойчы ён рашыў праверыць, ці дружна жывуць між сабою лясныя жыхары, ці не крыўдзяць вялікія і дужыя малых і слабых. Паклікаў Зайца, растлумачыў, пра што хоча даведацца, і сказаў:

— Ты бегаеш шпарчэй за ўсіх, таму я даручаю табе гэту работу. Зразумеў заданне?

— Зразумеў, — адказаў Заяц.

— Ну то бяжы і выконвай.

І Заяц з усіх ног кінуўся ў лес.

Першая яму напаткалася Вавёрка. Заяц пахваліўся, што яго паслаў з даручэннем сам Мядзведзь, і спытаў, ці не крыўдзіць хто яе. Вавёрка адказала, што пакрыўдзіць яе ніхто не зможа, каб і хацеў, бо ніводзін звер не пераскоквае з дрэва на дрэва так спрытна, як яна.

Не пачуў Заяц скаргаў і ад іншых звяроў. Так ён дамчаў да Барсуковай нары. Але замест Барсука сустрэў Лісіцу — Барсукову суседку. Яна якраз вылезла са сваёй нары і ліслівым галаскам спытала:

— Што ты тут робіш, мілы Зайчык?

Заяц расказаў ёй пра заданне ваяводы і папрасіў паведаміць, ці не крыўдзіць Барсук меншых звяроў і птушак. Лісіца азірнулася па баках і зашаптала:

— Сама не ведаю, што здарылася з маім суседам. Раней жыў ціха, мірна, а цяпер... Выйдзе раніцай і давай гойсаць па паляне. А потым, пратрэніраваўшыся, ляціць у вёску і хапае там курэй, гусей, качак. — І яна паказала кучу пер'я, што ляжала недалёка ад яе нары. — А самае непрыемнае: усе думаюць, быццам гэта мая работа. А я ж з вясны пачала карміцца адной зелянінай. Праўда, часам схаплю мыш-палёўку, дык жа гэта шкоднік... Так і скажы Мядзведзю. Няхай пакарае злодзея Барсука.

— Абавязкова скажу! — паабяцаў Заяц.

Міхайла Іванавіч, выслухаўшы Зайца, паклікаў да сябе Барсука.

— Ты, Барсук, як паводзіш сябе? — сказаў ён. — Ганьбіш усіх лясных жыхароў.

— А што такое? — не зразумеў Барсук.

— Як што? Бегаеш у вёску, крадзеш там курэй, качак, гусей...

— Гэта няпраўда! — закрычаў Барсук. — Хіба вы не ведаеце, што я ем толькі чарвякоў ды жукоў, а яшчэ ахвотней — грыбы, ягады ды розныя карэньчыкі? — стары Барсук заплакаў ад крыўды. Мядзведзь супакоіў яго. Сказаў, што паклёпніка сурова пакарае.

Назаўтра Міхайла Іванавіч зноў паклікаў да сябе Зайца.

— Навошта ты зняславіў сумленнага Барсука? — пагрозліва спытаў ён. — Навошта назваў яго злодзеем? Ён жа ніколі нічога не краў! Ён жа не есць мяса! Р-ра-зарву цябе!

У Зайца ад страху пачалі дрыжаць вушы.

(Працяг на стар. 10)

## Для самых маленькіх

**Станіслаў Шушкевіч**

### У ЛЕСЕ

Як у бубен спрытна дзюбай
Лупіць дзяцел па сасне,
Пошчак-стук саве не любы —
Стогне, вухкае у сне.

Скача бойка ў лесе сойка,
Берасцяначка — туп ды туп,
Буркаваць пачаў і войкаць
На старым суку галуб.

Шустры чыжык паміж шышак
Гляне ўверх, нібы замрэ,
То прытоіцца, ледзь дыша,
То шмыгне у гушчу дрэў.

На палянцы скачуць зайцы,
І вавёрцы не ўсядзець,
Як пачне яна куляцца,
Міла, люба паглядзець.

Як у бубен, спрытна дзюбай
Лупіць дзяцел па сасне,
То ўзмахне віхрастым чубам,
То крылом кару кране.

**Данута Бічэль-Загнетава**

### КОТ-ПІРАТ

Коцік сплёў лазовы кошык,
прыхаваў за пояс ножык
і адправіўся
нібы
ў лес па шчырыя грыбы.

Каля дуба:
— Ой, баліць
і сярэдзінка й жывот!
Лёг.
Надумаўся злавіць
папаўзня манюка-кот.

Папаўзень
лячыў той дуб,
з-пад кары выпуджваў мошак.

Не залез манюку ў кошык,
не папаўся і на зуб.

### ПАРАСЯТЫ

Сушыць сонейка на траўцы
паласатыя матрацы,
Тут матрацы — рох, рох, рох,
пакаціліся ў гарох.

### ЛІС

Ярка-рыжы,
ярка-рыжы!
Кураняты — хто куды.
Зловіць — у ланцуг паніжа!
Замяце хвастом сляды.

### ВОЖЫК

**Гэта ж трэба!**
На сцяжынцы —
шпількі вострыя
і шыльцы!



## ЯК ЗАЯЦ МЯДЗВЕДЗЮ ПАМАГАЎ

(Працяг са стар. 9)

— Я нічога не выдумляў. Мне Лісіца сказала... Там і пер'е ляжала...

— А-а, Лісіца?.. Цяпер мне ўсё зразумела, — крыху супакоіўся Мядзведзь. — Зараз жа знайдзі Барсука і папрасі ў яго прабачэння. А Лісіцы перадай, каб прыйшла да мяне.

Заяц ад радасці, што застаўся цэлы, кульнуўся і памчаў да пакрыўджанага Барсука. Але яго не было дома. Сарока-белабока, якая заўсёды ўсё ведала, сказала, што Барсук не захацеў больш бачыць паклёпніцу-суседку і перасяліўся ў другі лес. Не знайшоў Заяц і Лісіцы: яна прачула, што ваявода ведае праўду, і таксама паджгала немаведама куды...

І пабег далей бедны Заяц — шукаць Барсука і Лісіцу. Так ён бегае і дагэтуль. І хаты не будуе. І ніякіх запасаў на зіму не робіць. Не мае часу.

## Вершы Віктара Шведа

### ЛЕБЕДЗЬ, РАК І ШЧУПАК

Настаўнік пытаецца Лёву:
— Скажы, разумееш ты як
Змест байкі Івана Крылова
„Лебедзь, рак і шчупак“?

Скажы, чаму не кранулі
Разам яны з месца воз?
— Павінны, — падказвае Уля, —
Запрэгчы каня да калёс.

### ХТО ТУТ ГАСПАДАР?

У пярэдняй аграном, —
Кажа бацьку Ната, —
Гаварыць з гаспадаром
Хоча нашай хаты.

— Калі ласка, не жартуй,
Мілая Наташа.
Агранома накіруй
Да матулі нашай.

### ЦІКАВЫ АДКАЗ

Чуе дзядуля галасы
Ад дзетвары праворнае:
— Чаму сівыя валасы,
А барада дык чорная?

Адказ дзядуля дзецям даў:
— Мае вы найсалодшыя,
На год семнаццаць барада
Ад валасоў малодшая.

## Вясёлы куточак

— Мама, глянь, той чалавек не мае ні аднаго валаска на галаве!
— Не кажы так гучна, бо ён можа пачуць.
— Хіба ён пра гэта не ведае?

✲

— Як ты мог украсці веласіпед, які быў на могілках?! — пытаецца суддзя ў хлопчыка.
— Я думаў, што гаспадару гэтага веласіпеда ён ужо непатрэбны...

**Прыслаў В. Бабей**

Беларускія гульні

## ПАСАДКА БУЛЬБЫ

Дзеці падзяляюцца на 2-3 каманды па 8-10 чалавек. Строяцца ў калоны на чале з капітанамі, кожны з якіх атрымлівае мяшэчак з бульбай (5 штук). На адлегласці 20-30 крокаў ад калоны чэрціцца 5 кружкоў. Па сігналу капітаны бягуць да кружкоў, садзяць бульбу — кладуць яе ў кружкі і перадаюць пустыя мяшэчкі наступным удзельнікам. Тыя бягуць да кружкоў, збіраюць бульбу, вяртаюцца, перадаюць мяшэчкі наступным і г.д. Выйграе каманда, якая першай закончыць пасадку і збор бульбы.

Правілы гульні: садзіць бульбу трэба ў цэнтр кружка; калі бульба выкаціцца з кружка, ігрок вяртаецца і выконвае заданне спачатку.

# ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА:





























Спецыяльна для „Зоркі“ прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

